# Рэцэнзіі



А. Г. Каханоўскі. **Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914 гг.).** Мінск : БДУ, 2013. 335 с.

Праблема сацыяльнай трансфармацыі грамадства на розных этапах развіцця з'яўляецца надзвычай актуальнай і значнай у гістарычнай літаратуры. Перыяд другой паловы XIX – пачатку XX ст. стаў важным этапам у станаўленні індустрыяльнага грамадства на беларускіх землях, вызначыўся працэсамі станаўлення нацыі і элементаў грамадзянскай супольнасці. Таму зварот аўтара да даследавання гэтай тэмы выклікае ўвагу і адпаведны інтарэс.

Абапіраючыся на шматлікія статыстычныя матэрыялы і архіўныя крыніцы, якія налічваюць каля 400 адзінак захоўвання, аўтар паспрабаваў упершыню ў беларускай гістарыяграфіі звярнуць увагу на праблему сацыяльнай стратыфікацыі ў вызначаны час. Нельга сказаць, што беларускія гісторыкі не звярталі ўвагу на гэтыя пытанні. Аднак, будучы абмежаванымі ў пастаноўцы задач сваіх даследаванняў, яны засяроджвалі ўвагу на высвятленні асобных бакоў гэтай праблемы і не займаліся яе комплекснай распрацоўкай.

У дадзеным выпадку мы маем справу з аналізам першай айчыннай манаграфіі, прысвечанай названай праблеме, і ў гэтай сувязі павінны адзначыць пэўныя дасягненні.

Аўтар у першую чаргу звярнуў увагу на мадэрнізацыйныя працэсы ў Беларусі, назваў іх этапы, прааналізаваў індустрыяльнае развіццё, урбанізацыю, этнічныя і сацыяльна-культурныя працэсы, у тым ліку і на беларускай вёсцы. Цікава, што пры гэтым на падставе аналізу шматлікіх крыніц робіцца сапраўды правільная выснова, згодна з якой мы павінны разумець, што працэс мадэрнізацыі спалучаўся з існаваннем дыспрапорцый паміж горадам і вёскай, адпаведна больш хуткім ростам прамысловасці і руцінным станам сельскай гаспадаркі.

Вельмі важнай і актуальнай з'яўляецца праблема вызначэння складу насельніцтва ў дадзены час. Аўтар падкрэслівае, што беларускія губерні апярэджвалі сярэднія паказчыкі еўрапейскай часткі Расійскай імперыі па ўзроўню натуральнага прыросту насельніцтва, што прывяло да павелічэння тэрытарыяльнай і сацыяльнай мабільнасці.

У манаграфіі асаблівая ўвага звяртаецца на эвалюцыю саслоўных інстытутаў у вызначаны перыяд. Пры гэтым адзначаецца, што дадзеная праблема па кожнаму саслоўю мела сваю перадгісторыю і абапіралася на адпаведныя заканадаўчыя акты. Аўтар падкрэслівае, што істотнае значэнне мелі законы, якія былі прыняты пасля паўстання 1830–1831 гг. у дачыненні да шляхецкага саслоўя, але не менш важнае значэнне мелі пастановы адносна духавенства, гарадскіх мяшчан і сялян. Гэта дало яму падставу заявіць, што саслоўны лад вызначаў сацыяльныя сувязі ў грамадстве і складаў аснову існуючага ладу.

Некалькі асобна, але ў межах тэмы, у манаграфіі падаецца станаўленне слаёў буржуазнага грамадства. Аўтар не без падставы адзначае, што на мяжы XIX – XX стст. беларусы ў Расійскай імперыі былі пераважна заняты ў галіне сельскай гаспадаркі і мінімальна – у прамысловасці. Таму можна сцвярджаць, што сапраўдны працэс утварэння беларускай нацыі не скончыўся, яго трымала ў сваіх руках невялікае кола нацыянальнай інтэлігенцыі і гэта прадвызначыла наступныя падзеі.

Мадэрнізацыйныя працэсы на Беларусі праходзілі нераўнамерна, тут існаваў свой асобны шлях, што было звязана і з палітыкай расійскай улады, і са спецыфікай развіцця на працягу стагоддзяў. Таму можна пагадзіцца з аўтарскай высновай аб тым, што яны былі фрагментарнымі, у большай ступені ў працэс станаўлення індустрыяльнага грамадства былі ўцягнуты заходнія рэгіёны. Працэсы тэрытарыяльнай мабільнасці апярэджвалі сацыяльную і ў меншай ступені сацыяльна-псіхалагічную сферы. У выніку ў авангардзе мадэрнізацыі тут ішлі не гарады і трэццяе саслоўе, а дваранства. Тым не менш гэта істотна ўплывала на эканамічную, палітычную і этнакультурную сферы развіцця грамадства.

Адзначаючы станоўчыя моманты праведзенага даследавання, хацелася б выказаць і некалькі пажаданняў. Зразумела, што аўтар не мог не карыстацца матэрыяламі статыстыкі, аб чым нават сведчаць прыведзеныя табліцы. Нам падаецца, што гэты матэрыял трэба было б абмежавана выкарыстоўваць у тэксце манаграфіі, бо часам узнікаюць цяжкасці ў яго асэнсаванні. Было б добра, каб аўтар ажыццяўляў больш шырока рэтраспектыўны падыход і рэальна паказваў, што здарылася ў дваццатым стагоддзі ў параўнанні з дзевятнаццатым.

Праведзенае грунтоўнае даследаванне праблем сацыяльнай трансфармацыі беларускага грамадства ў вызначаны перыяд сведчыць аб высокім навуковым узроўні аўтара. Кніга будзе карыснай прафесійным гісторыкам, аспірантам, магістрантам, студэнтам, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

***Ю. Л. Казакоў,***
кандыдат гістарычных навук, дацэнт